Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў
ад 9 да 2 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты:
за 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 6 лютага 1930 г. №. 6

**По загаду Гарадзкога Старасты на м. Вільню № 5 „Наперад“ з дня 5 лютага 1930 г. сканфіскаваны за зьмяшчэньне „Пратэсту Пятага Зьезду Аб‘яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў „АБСА“ проці прасьледаваньня беларускіх культурных арганізацыяў“.**

## Сваімі сіламі.

Хто хоць болей-меней знаёмы з гісторыяй адраджэньня народаў, гібеўшых некалі ў чужацкай няволі—дзяржаўнай і культурнай, той мог пераканацца, што ўсюды і заўсёды шлях адраджэньня быў аднолькавы: народ будзіўся зо-сну, унутрана кранчэў і—ў той мамэнт, як станавіўся паметнай сілай, — здабываў для сябе належнае мейсца ў сям‘і народаў сьвету. Бо-ж толькі тады, калі ён выяўляў сваю ўнутраную моц і вонкавую сілу, ім пачыналі цікавіцца „вялікія гэтага сьвету“ і—часта пад націскам яго аружнае сілы—прызнавалі ягоныя правы на самастойны, ні ад кога незалежны быт.

Тыя адраджаючыяся народы, якія — ад палловы XIX сталецьця — выступаюць на арэну палітычнага жыцьця, дужа добра гэта разумелі. І не дарма клічам італьянскіх рэвалюцыянераў, якія пад павадырствам Гарыбальдзі бароліся за вызваленьне сваей бацькаўшчыны, былі гістарычныя словы-лёзунг: Italifara da se! Не дарма чэхі, якія яшчэ так нядаўна стагналі пад пятой чужынцаў, у самым пачатку свайго нацыянальнага адраджэньня на пабудаваным за ўсенародныя ахвяры вялізарным гмаху чэскага нацыянальнага тэатру ў Празе зьмясьцілі гэты сымвалічны надпіс: **„Народ сам сабе!“**

Толькі народ, які мае ў сабе неабходную творчую сілу і сьвядомасьць гэтае сілы, можа спадзявацца, што—раней, ці пазьней — прыйдзе такая часіна, калі зьдзейсьняцца яго сны-лятуценьні аб Волі. Пад гул гарматніх стрэлаў, ад якіх валіліся ў пыл тры вялізарныя монархіі: Расейская, Нямецкая і Аўстрыяцкая, —здабылі сабе дзяржаўную незалежнасьць і тыя-ж чэхі, і палякі, і літвіны, і латышы, і эстонцы, і фінляндцы. І толькі беларусы ды ўкраінцы аказаліся менш шчасьлівымі за другіх: бо—з аднаго боку — дужэйшыя суседзі іх былі лішне ўжо зацікаўлены ў паняволеньні і падзеле іх між сабою, з другога боку—далёка ня ўсе дзесяць мілёнаў беларусаў і трыццаць мілёнаў украінцаў мелі неабходную нацыянальную сьведамасьць, без якое немагчыма Воля.

Цяпер—у часы так-званае „стабілізацыі“ (замацаваньня на даўжэйшы ці карацейшы час) міжнародавых адносінаў на сьвеце — мы, беларусы, мусім вельмі добра ўцяміць гэту вялікую праўду, што й да нас — **„Воля ня прыйдзе сама!“** Што мы самі мусім быць кавалямі яе. Што „другія“ могуць нам дапамагчы адно толькі тагды, калі мы самі сабой будзем дужыя. Бо цяпер, пакуль мы яшчэ слабыя, гэныя „другія“ зусім і ня думаюць нам памагаць, а толькі робяць від гэтага і запраўды адно стараюцца ўблутаць нас у свае сеці, каб пасьля як найкарысьней для сябе папросту прадаць нас на глум і зьдзек нашым ворагам....

Наша грамадзянства ў Заходняй Беларусі цяпер пабіта на розныя групы і групкі — ці то паводле сваей сацыяльнай ідэолёгіі, ці—паводле тых ці іншых „палітычных арыентацыяў“. І як-жа часта мы бачым сярод нас людзей, якія так высака стаўляюць пытаньне аб сваей „арыентацыі“, што—ня бачаць за ёй мэты беларускае, якой мусіла-б гэная „арыентацыя“ служыць! Як часта „арыентацыі“ ператвараюцца проста ў **лякайскае выслугоўваньне тым ці іншым „панам“,—як часта** дабравольныя лякаі чужацкае сілы, выслугоўваючыся сваім „дабрадзеям“, **убіваюць нож у сьпіну Беларускаму Народу!**

Нашае цяперашняе заданьне, як і ад пачатку нашага адраджэнскага руху,—гэта **вытвараньне самастойнае сілы народнае**, разьвіваньне ў нашых масах сялян і работнікаў здольнасьці да грамадзкае працы, да змаганьня за свае нацыянальныя і сацыяльныя інтарэсы. І заданьне гэтае імення для нас, беларусаў, тым важнейшае, што тут, у Заходняй Беларусі, мы маем яшчэ лішне мала інтэлігентных сілаў, што тут народныя масы мусяць ісьці саматугам, мусяць спадзявацца толькі на сябе, на сваю сьведамасьць, на сваю фізычную сілу.

**Разьвівайма-ж самадзейнасьць сярод нашых працоўных масаў, узгадоўвайма кадры інтэлігентаў**—будучых павадыроў народу—спасярод сыноў нашых сялян і работнікаў, і мы збудуем моцныя падваліны дзеля нашае будучыны.

## Проці шкоднай барацьбы.

### Адкрытае пісьмо.

У той час, калі беларускія працоўныя масы зносяць матэрыяльную й маральную галіту і культурна-нацыянальны ўціск, калі нясуць на сваіх плячох увесь цяжар сучаснага гаспадарча-сацыяльнага ладу,—нялічная беларуская інтэлігэнцыя, замест таго, каб супольна й згодна змагацца за лепшую долю свайго народу, паразьбівалася на дробныя групкі й партыі, якія заядла змагаюцца адны з аднымі, кожная сілячыся пераканаць народ, што толькі яна адна зьяўляецца шчырым абаронцам і выявіцелем інтарэсаў і патрэбаў працоўных масаў. На ўсе бакі раскідаюцца гучныя заявы й лёзунгі, дэмагогічныя абяцанкі й заклікі; без усякага пачуцьця асабістай годнасьці бэсьцяць адны адных (і яшчэ больш—самі сябе!)—ілжою, лаянкай і паклёпам. І гэтае агіднае і вельмі ганьбячае зьявішча расьце, пашыраючыся сярод шырэйшых колаў беларускага грамадзянства, сеючы між яго нязгоду і дэзарганізацыю і, што яшчэ горш, няверу да адных і другіх, няверу наагул да беларускае інтэлігэнцыі, да магчымасьці яе актыўнай творчай працы. Бо-ж ясна і вельмі яскрава даецца адзначыць тое, што сваім паступаньнем кіруючыя вярхі беларускага грамадзянства ўсё больш трацяць уплыў і давер‘е працоўных масаў.

Трэба яшчэ адзначыць, што гэтае сумнае зьявішча намечвалася і раней, але яно ня гэтак глыбака ўелася ў здаровы арганізм народу, было павярхоўным, староньнім, штучна вытвараным... Паўлюкевічаўшчына, Умястоўшчына і другія штучна зробленыя „кірункі“ беларускага руху зусім не закранулі і не маглі закрануць душы беларускага народу. За імі пайшлі толькі чыста несьвядомыя, або тыя, якія за грошы маглі прадаць і сьвядомасьць, і сумленьне...

Зусім ня тое бачым мы цяпер. Найбольш ідэйна паступовы асяродак беларускай інтэлігенцыі, у які ўваходзілі ўсе лепшыя сілы беларускага грамадзянства,—цяпер расчапіўся на дзьве палавіны. На чале адной сталі такія выдатныя і заслужаныя дзеячы беларускага руху, як Луцкевіч, Астроўскі і інш.; другою кіруюць беларускія паслы з клюбу „Змаганьня“, выбранцы беларускага народу. Ня будзем разглядаць тут прычын, якія выклікалі гэты сумны падзел. Нязгоднасьці ў думках людзей і пераканаваньнях мусяць быць. Але ня можна паглыбляць розьніцу гэтых пераканаваньняў, ня можна даваць ідэі агульналюдзкага дабра ў ахвяру гэтым дробным, асабістым нязгоднасьцям!

З жалям і з усё больш узрастаючым недавер'ем сочыць народ за сумнымі зьявамі маральнага разлажэньня беларускай інтэлігенцыі, новым прыкладам якога зьяўляецца зацятая барацьба гэтае другое групы з першай. Прэса паслоў кідае сваім праціўнікам закіды ўгоды, „санатарства“ і схіленьня ў бок буржуазнай ідэолёгіі; а тыя абвінавачаюць паслоў у адступніцтве ад нацыянальнай ідэі. І прорва раздзяляючая адных ад другіх, пашыраецца ўсё балей. Замест таго, каб шукаць згоды і паразуменьне, павадыры розных кірункаў пашыраюць варожасьць адны да другіх, уцягваючы ў гэтую барацьбу шырокія масы. Але трэба верыць, што здаровая моц беларускага народу здалее перамагчы гэту хваробу лепшай часткі нацыянальнага арганізму — інтэлігэнцыі. Трэба верыць, што ўсе тыя, якія сьвядома ці несьвядома хочуць зьвясьці працоўныя масы з шляху, які вядзе да зьдзейсьненьня іх ідэалаў, ня знойдуць ніякага паслуху і падтрыманьня!

То трэба памятаць, што ня можна ахвяраваць інтэрэсаў і ідэалаў народу, — на карысьць другога,—як ня можна звужываць нацыянальнай ідэі, ператвараючы яе ў шавінізм, а трэба лічыць сябе перадусім, грамадзянінам усяго сьвету!

У. Т.

Гарадзішчанская гм.,
Баранавіцкага пав.

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаем гэты голас набалеўшае душы чалавека з вёскі, які стаіць з далёк ад тэй запраўды-ж незразумелай для масаў барацьбы, якую пэўная група нашага грамадзянства з пасольскім клюбам „Змаганьне“ на чале распачала — у тон з такім жа змаганьнем у Савецкай Беларусі — **проці самастойнага радыкальнага беларускага руху ў Заходняй Беларусі.** Мусім толькі адзначыць адно: што наша група іграе тут выключна пасыўную ролю, як тыя, проці каго быў падняты паход. А нашы чытачы хіба самі

## Адозва эканамічнага рэфэрату АБСА.

Ня кожны яшчэ добра ўяўляе сабе, што такое ёсьць АБСА і якія яго заслугі ў беларускім руху. Дык вось спачатку пара інфармацыяў.

Аб‘еднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў „АБСА“ паўстала ў 1925 г. ў Празе Чэскай, як цэнтраля аб‘ядновываючая беларускае студэнства бяз розьніцы яго ідэйнага кірунку, для самавырабленьня культурнага і нацыянальнага, для ўзаемнае помачы матэр‘яльнай і маральнай і для рэпрэзэнтацыі беларускага студэнства на міжнародным груньце.

У гэтай апошняй галіне ўдалося асягнуць вам непамерныя вынікі, бо „АБСА“ ад 1926 г. зьўляецца сталым сябром „С. І. Е. (Міжнароднай Студэнскай Канфэдэрацыі) і бярэ чынны ўдзел у яго Зьездах, баронючы беларускае студэнства і высьвятляючы беларускае пытаньне. І так нашы прадстаўнікі ўзялі ўдзел у зьездах „С І. Е“ ў 1926 г. ў Празе, у 1927 г. ў Рыме, ў 1928 г., ў Парыжы. Такім чынам „АБСА“ ня гледзючы на ўсякага роду труднасьці амаль адзінае з усіх беларускіх арганізацыяў падтрымоўвае сталую лучнасьць з усім сьветам. Як вялікае гэта мае значэньне ня толькі для беларускага студэнства, але і для ўсяго Народу, хіба добра ўяўляе сабе кожны грамадзянін нашае Бацькаўшчыны. У бягучым годзе на V-тым зьездзе „АБСА“ ў Празе Чэскай 4-га студзеня пры ўдзеле прадстаўнікоў Белар. Студ. Саюзу ў Вільні пастаноўлена тры аддзелы „АБСА“ перанесьці ў Вільню, дзе яны могуць мець шырэйшае поле дзейнасьці і так перанесены аддзелы: спартовы, эканамічны і прэсавы.

„АБСА“ вяло, вядзе і будзе весьці далей сваю працу ўсьведамляючы сабе дасканальна сваю вялікую місыю ў беларускім адраджэнскім руху, творачы і здабываючы новыя вартасьці і азнаямляючы чужыну, што раз то шырэй з нашым змаганьнем, з нашымі жаданьнямі.

Але каб „АБСА“ ўзапраўды магло з пасьпехам весьці сваю працу неабходнай зьяўляецца матэр‘яльная падмога Вас, грамадзяне!

Падтрыманьне нас у вялікае працы на карысьць нашага Народу зьяўляецца абавязкам кожнага сьведамага беларуса.

І мы верым, што Вы, грамадзяне, уявіўшы сабе значэньне нашае працы, прыйдзеце нам з помаччу,—адгукнецеся на наш кліч.

Няхай кожны дасьць грош, а з іх вырастуць тысячы, якія дадуць магчымасьць Беларускаму Студэнству далей весьці распачатую працу на славу і для поўнага вызваленьня Бацькаўшчыны.

Дапамогі могуць быць месячныя і аднаразовыя; ахвярадаўцы запісываюцца ў спэцыяльную кнігу ахвяраў на фонд „АБСА“.

Няхай, грамадзяне, гэта кніга будзе сьведкам для будучых пакаленьняў аб ахвярнасьці беларускага Народу ў цяжкую хвіліну яго падняволеньня!

Урад А. Б. С. А.

4 студзень 1930 г.
м. Прага.

Ахвяры просім прысылаць на адрас Эканамічнага рэфэрату „АБСА“ ў Вільні, Людвісарская вул. 1—19.

лажэньня з зьменай гаспадарчае палітыкі у суседніх з Польшчай дзяржаваў (у першую чаргу—ў Нямеччыне!!) палажэньне ў Польшчы можа паправіцца.

Няменш выразна сьцьвярдзілі цяжкае палажэньне краю — міністры і паслы ў бюджэтнай камісіі Сойму ў часе расправы над агульным уняцьцем бюджэту.

# Заграніцай.

## Канец гішпанскай дыктатуры.

28 студзеня — гістарычны дзень для Гішпаніі: урэшце зваліўся аслаўлены дыктатар Гішпаніі, генэрал Прыма дэ Рывэра.

Францускія газэты даюць цікаўныя весткі аб ходзе гэтага важнага для Гішпаніі здарэньня. У ноч на 26 студня ген. дэ Рывэра раптам склікаў Раду Міністраў, якім заявіў, што, як яму ведама, у Кадыксе (места ў Гішпаніі) выбухла ваеннае паўстаньне проці дыктатуры, на чале якога стаў... швагер самога караля Альфонса, князь Карлос. Дыктатар дадаў, што можа адным махам задушыць паўстаньне, але сьпярша хоча мець пэўнасьць, 1) што кароль згодзіцца на рэпрэсіі проці яго швагра; 2) што камандзір арміі і флёту паслухаюць яго загадаў, і 3) што міністар скарбу надалей лічыў дыктатуру... патрэбнай з пагляду фінансавага і гаспадарчага стану краю... Міністры аднак-жа маўчалі... Урэшце мін. скарбу заявіў, што край на парозе банкруцтва, з якога, ну, ці вывядзе яго дыктатура—сумліўна... Некаторыя цьвердзяць, што дыктатура спрычынілася якраз да катастрафічнага стану краю... Нарады міністраў скончыліся толькі на раніцы. У працягу ночы Прыма дэ Рывэра выклікаў па тэлеграфу са два дзесяткі генэралаў з усяго краю на нараду. На запытаньне дыктатара, ці можа ён рахаваць на іх „вернасьць", генэралы адказалі, што яны прысягалі вернасьць каралю, дык — хай дэцыдуе кароль... У часе гэтых нарадаў, у сталіцы ўсьцяж адбываліся дэманстрацыі студэнтаў проці дыктатуры. Студэнтаў падтрымалі прафэсары сваім згодным пратэстам, а на вуліцах — работнікі і іншае насяленьне сталіцы. Шырокай хваляй пракацілася вестка аб паўстаньні і „бунце" ў сталіцы і па ўсяму краю.

Тымчасам у справу актыўна ўмяшаўся кароль, які ўсьцяж радзіў з пасламі вялікіх дзяржаваў дый з міністрамі, а насамперш з міністрам скарбу. Трэба ведаць, што дыктатура гэтак разьнішчыла ўсю гаспадарку дзяржавы, што пачала катастрафічна спадаць гішпанская валюта, і без таго стаяўшага значна ніжэй свайго даваеннага залатога „парытэту" (поўнага курсу). Выклікаў кароль і свайго „рэвалюцыйнага" швагра...

Цікаўна, што магутная партыя гішпанскіх кансэрватараў, да якой належыць і сам каралеўскі швагра, заявіла праз сваіх павадыроў, што дыктатура зьяўляецца найбольшай небясьпекай для... манархіі! Кароль, падтрымліваючы зьненавіджаную ўсім краем бяздарную дыктатуру, сам падсякае падставы манархіі ў Гішпаніі...

Урэшпе кароль выклікаў да сябе дыктатара і меў з ім гадзінную гутарку. Гутарка гэта адбывалася пад бязупынны „кацячы канцэрт" на пляцу перад палацам караля, які рабіла многатысячная таўпа народу „ў чэсьць" дыктатара. Побач з крыкамі „далоў дыктатуру" народ крычаў і „далоў манархію"... Перасьцярога кансэрватараў пачыналася спаўняцца...

Ад караля няўдалы генэрал дэ Рывэра выйшаў адстаўным дыктатарам. Кароль назначыў прэм'ерам генэрала Бэрэнгуэру. Гэты Бэрэнгуэра мае 57 гадоў, адзначыўся (?) ў вайне з Абдэль-Крымам у Марокко, як здабыўца сталіцы кабілаў.

Ведамасьць аб адстаўцы дэ Рывэры выклікала валізарны ўздым у Гішпаніі. Новы ўрад мае „павольна" (!) адбудаваць канстытуцыйны, прасьцей: законны лад у краі. Дык-жа й адстаўны дыктатар заявіў журналістам, што і яго наступнік павінен будзе яшчэ шмат часу тасаваць „дыктатарскія спосабы ў кіраваньні дзяржавай"...

Генэрал Бэрэнгуэр заявіў, што яго новы габінэт будзе „выдатна цывільным"... А што гэты „цывільны габінэт" не дазволіць ніякіх варожых выступленьняў проці... сяброў былага ўраду, а таму насамперш будзе ўтрымана ў ва ўсей поўні... суровая цэнзура, уведзеная дэ Рывэрай...

Дык—з аднаго боку няма дыктатара дэ Рывэры, але — з другога — астаўся яго рэжым... Праўда, цяпер ужо нават да нармальнага, законнага стану няўхільна пойдзе шпарчэй. Найпаважнейшыя з гішпанскіх дзяржаўнікаў, павадыры апазыцыйных партыяў, заяўляюць, што ня прыймуць учасьця ў габінэце Бэрэнгуэры, пакуль ня будзе цалкам адбудаваны гэты законны стан у краі.



# Кароткія навіны.

Адстаўны міністар справядлівасьці п. Цар зьвярнуўся ў адвакацкую раду, каб прыняла яго ў лік варшаўскіх адвакатаў. Але значная група адвакатаў падала пратэст проці прыняцьця б. міністра справядлівасьці ў лік сяброў „палестры", матывуючы пратэст тым, што п. Цар, як быў міністрам, гвалціў незалежнасьць Суду і нятыкальнасьць судзьдзяў, што ня рупіўся выкрываць такія праступленьні, як забойства генарала Загурскага ды пабіцьцё рэдактароў і публіцыстаў апазыцыйных газэтаў, што не апублікаваў законнай пастановы Сойму аб скасаваньні прэсавага дэкрэту, што процізаконна заняў месца генаральнага выбарнага камісара і т. д. Дык, можа, адвакацкая рада і адмовіць б. мін. Цару ў прыняцьці яго ў лік адвакатаў.

У зьвязку з афэрай нейкага Зейнфэльда, выдаўшага ў сваім „сэкрэтным камунікаце" сэкрэтную тэлефонную размову паміж прэм'ерам і Прэзыдэнтам, а таксама ў зьвязку з згульнай справай „падслухіваньня на тэлефонах", заарыштаваны сам ведамы рэдактар выдавец агенцтва „A. W." (Усходн. Аг.) п. Шчэпанік. Арэшт Шчэпаніка зрабіў вялікую сэнсацыю. Арыштаваны быў пасьля выпушчаны — пад залог 3.000 зл.

25 студзеня падпісана ў Парыжу ўмова аб усталеньні польскага ваеннага доўгу Францыі. Умова сьцьвердзіла агульную суму доўгу ў ліку **1 мільярд 898 мільёнаў франкаў**, лічучы разам з процэнтамі—да 15 красавіка 1931 г. Сплата доўгу раскладзена на 62 гады, лічучы ад 1931 г. да 1992 г., значыцца, сярэднім лікам больш, як па 30 мільёнаў франкаў у год.

25 студзеня распачаўся кангрэс францускіх сацыялістаў. Кангрэс, паміж іншым, прыняў вельмі важную пастанову ў галіне партыйнай тактыкі. Іменна, ня гледзячы на ўсе намовы прыехаўшых на кангрэс такіх павадыроў міжнароднага соцыялізму, як Каўцкі (немец), Вандэрвэльдэ (бэльгіец), Адлер (аўстрыяк) і інш., на ім перамагла левая фракцыя, якая працівілася ўсялякаму ўчасьцю ў урадзе поруч з буржуазыйнымі партыямі. Пастанова аб учасьці ў урадзе прынята большасьцяй 7.066 галасоў проці 1.507. Пастанова кажа, што сацыялісты маглі-б прыняць учасьце ў такім урадзе, які—або быў бы цалком у іх руках, або быў-бы пад рашучым уплывам сацыялістаў. Бо ўладу сацыялісты могуць і павінны **ўзяць толькі дзеля таго, каб правадзіць сацыялістычную праграму.**

Прадбачаць раскол сярод франц. сацыялістаў—з прычыны такога становішча большасьці.

Сярод расейскай эміграцыі, а таксама францускай паліцыі—выклікала страшэннае ўзварушэньне таёмнае зьнікненьне расейскага „белага" ген. Кутепава, які—пасьля сьмерці ген. Врангеля—заняў меўсца галавы ўсей ваеннай часткі эміграцыі. У Парыжу думаюць, што ген. Кутепава схапілі бальшавіцкія агенты, якія, як пішуць, апынуліся навет сярод.., найбліжэйшага акружэньня галавы найбольш варожай да бальшавікоў ваеннай арганізацыі. Францыя аж бурыцца пад цяжарам гэтага чарговага скандалу для сваіх парадкаў... Газэты трэбуюць—калі будзе даведзена, што гэта зрабілі бальшав. агенты,—каб у працягу 24 гадз сарваць стасункі з маскоўскім урадам.

25 студня павінны былі распачацца ў Маскве радава-кітяйскія перагаворы, але ізноў былі адложаны. Радавы ўрад заявіў, што віна за гэты адклад падае на Кітай, бо СССР заінтэрэсаваны ў чымхутчэйшым распачацьці перагавораў і стараецца іх прысьпешыць.

Мэксыканскі ўрад адклікаў свайго пасла ў Маскве, зрываючы гэтым крокам дыплёматычныя стасункі з СССР. Амэрыканская прэса піша, што гэты крок быццам зроблены—пад націскам ураду Злуч. Штатаў Амэрыкі. Прэса падчорківае, што, як толькі ў Мэксыку прыбыла радавая „амбасадарка" ведамая камуністка тав. Коллонтай, дык зараз Мэксыка ператварылася ў гняздо проціамэрыканскай агітацыі... Дык магутны Хувэр паставіў мэксыканскаму ўраду справу востра: выбірай—або прыязьнь Амэрыкі, або—СССР...

# Новая форма.

(Кароценькі фэльетончык).

Увайшло ўжо ў звычай пісаць „кароткія фэльетоны". Кароткі фэльетон, кароткі фэльетон! Цяпер, браткі, шуканьне новай формы, новых Амэрык у галіне слова. Напішы вось „кароткі" фэльетон—засьмяюць! Кансэрватарам абзавуць, а там і далей недалёка: таго і глядзі ў здраднікі, або контррэвалюцыянэры залічаць. Цяпер, браточкі, шуканьне новых формаў. „Ярлыкі" цяпер выдумалі. Ходзіць сабе чалавек па сьвеце божым і ня ведае, што ў яго на сьпіне „ярлык" гэтакі, значыцца. А на „ярлыку" тым—здрайца або й яшчэ нешта такое напісана. Як плот зрабіўся чалавек—што хочаш можна пісаць. (А на плотах вы ведаеце што пішуць...). І ўсялякія ярлыкі найшлі: малыя, вялікія, чорныя, белыя, чырвоныя — пасыпаліся ярлыкі, як сьнег. Дзе ні пакруцішся, што ні скажаш—ён, гэты паганы ярлык, як смала, ліпне. Ну, і ідзе вось значыцца чалавек, а людзі на яго пальцамі—тыц!—во, гэта здраднік. Шуканьне новага, браткі, новай формы. Часам так здэфармуюць твар, што зусім новым чалавек робіцца. Дык вось і я не адстаю ад поступу. Дай, думаю, „фэльетончык" цяпну. Аж сэрца скалыхнулася ў мяне ад адкрыцьця новае формы. О, творчасьць, творчасьць! Сядзіш вось, напрыклад, шукаеш, шукаеш „новай формы" і раптам—бац! —„фэ-лье-тон-чык!" Га, што вы на гэта скажаце? Хай ця ліха возьме, як гэта цікава! Хай хоць „ончык" будзе, думаю,—ўсё-ж новае ў галіне слова!

Цікавыя справы творацца цяпер на сьвеце. Вось прыкладам, ці вы чулі, як гэта з бабы чорта крыжам выганялі ў Вільні? Чорта, чорта—чыстая праўда, браткі! Выганялі й ня выгналі. Ня хоча, значыцца, выйсьці дый годзе! Так і не пабачылі чорта. А можа... ёсьць надзея!—можа яшчэ й зловяць, бо людзей ля царквы—не адгонішся! — усё шукаюць „злога духа". Ня сьмейцеся, браточкі; праўдзе вочы ня выкалеш. А як зловяць, тады яго ў Музэй Беларускі (бо ля яго ён усё блудзіць, паганец). Тады, яго пад сем замкоў! Прыяжджай, значыцца, кожны—сам пераканайся! А ці вы чулі яшчэ: бабы цішком аб канцы сьвету шэпчуцца. Аб канцы сьвету! І што вы думаеце: возьме наша плянэта дурасьць у галаву, пачне новых формаў шукаць!.. Што ты ёй зробіш? На хвост солі не насыпеш! Але аб гэтым голасна не гавораць. Толькі я вам, браточкі, скажу: часам чалавеку язык засьвярбіць, ну й ня можна чаго-небудзь не сказаць. Слова не верабей: выляцеў—кажы: прапала!

А тымчасам пагана, браткі. Шукаеш формы, шукаеш грошы. Ня хочаш часам думаць аб гэтай бразгучцы. Чалавек я з ідэаламі. Грошы, грошы—глупства такое! Але вось ідзеш так, напрыклад, з пустым жалудкам—і абдасьць цябе запахам печанага хлеба... або яшчэ чаго... Ня вытрываеш—пачнеш шукаць грошы. Усё-ж недасканальны чалавек! Нашто вось, напрыклад, грошы істнуюць? Лепш-бы шукалі новай формы. Для нашага брата—інтэлігэнта асабліва пагана. Хварэе чалавек! Ідэалісты ўсе, а тут—грошы! Але ведайце, што ў такім выпадку не чалавек гаворыць, а жалудак. Дык і не зьвяртайце ўвагі. Усё, браткі, у новай форме. Шукайце новай формы!

**Ідэаліст.**

# Загранічная прэса аб беларусах.

Пытаньне беларускае на шпальтах загранічнае прэсы ўсьцяж мае актуальнае значэньне. Праўда, большая частка ўсялякіх вестак аб Беларусі й беларусах—гэта ўсялякія сэнсацыі штодзённага нашага жыцьця. Аднак, тутака можна часта сустрэць і спэцыяльныя артыкулы, пасьвячаныя беларускаму пытаньню.

Найболей удзяляе ўвагі беларусам прэса: нямецкая, ангельская й чэская; потым ідзе француская, мадзярская, амэрыканская ды інш.

Пражскі штомесячнік пад назовам „Slovansky Prehled" сыстэматычна інфармуе ня толькі чэхаславацкае грамадзянства, але й усё славянства, аб Беларусі з пад усіх яе політычных падзелаў.

Рэдактар „Sl. Pr."—вядомы чэскі пісьменьнік Адольф Чэрны (Ян Ракіта); ужо з даўных часоў ён адзначаўся асаблівай прыхільнасьцяй да беларусаў і шмат разоў станавіўся адкрыта ў абароне беларускіх інтарэсаў. Месячнік яго „Славянскі Агляд"—заўсёгды ахвотна ўдзяляў мейсца пытаньням беларускім ня толькі з пад пяра чэхаў, але й для саміх беларусаў, гдзе ўжо ў 1908 годзе надрукаваны вялікі агляд беларускага руху Антонам Навінай. Падчас пабыту ў Чэхаславаччыне спрычынялася да супрацоўніцтва таксама беларускае студэнства (Д-р М. Ільяшэвіч, Фр. Грышкевіч, І. Сланеўскі).

Апошні нумар „Слав. Агляду" (№ 10, год XXI) прыносіць цікавы вялікі артыкул Ігната Сланеўскага: „Беларускія народныя элемэнты ў творчасьці Ожэшковай" напісаны з прычыны пастаноўкі памятніку ў Горадні. І. Сланеўскі (філ. канд.) досыць яскрава выяўляе нам беларускае абліччa ўталентаванай пясьняркі нашага краю, падробна затрымоўваецца над кожным творам і ўдала аналізуе беларускім вокам глыбіню псыхолёгічных момэнтаў пасобных яе герояў.

Гэтаксама апошні нумар чэскага тыднёвіка „Čin" (23. I. 1930, Praha) дае агляд сучаснай беларускаў літэратуры й зьмяшчае фотографіі песьняроў: Янкі Купалы і Міх. Чарота. Аўтар артыкулу М. Шыманка, нажаль, выключна затрымоўваецца на пісьменьніках Радавай Беларусі і зусім ня ўспамінае аб пісьменьніках Заходняй Беларусі й Латвіі. А шкада, бо й тут жыве шмат выдатных мастакоў пяра, як Натальля Арсеньнева, А. Бартуль і цэлы рад іншых выдатных маладых поэтаў і пісьменьнікаў. Аднак, артыкул цікавы й бясспрэчна патрэбны для інформацыі чэхаў аб нашай літэратурнай працы.

Да агляду іншае прэсы, прыхільнае беларусам, вернемося ў наступных нумарох газэты.

**Зубровіч.**

# Хроніка.

× **Да адказу нам „Kur. Wil.".** Орган польскіх краёвых дэмакратаў „Kur. Wil." у нумары з 29 студзеня полемізуе з нашай стацьцёй пад загалоўкам „Новы ўрад і беларуская асьвета" (гл. № 3—1930 г.).

Польская газэта бароніць міністра Чэрвіньскага на тэй падставе, што ведае, быццам п. Чэрвіньскі ня ўспомніў у Вільні аб беларусах і літвінах—толькі прыпадкова (N. B. „Kur. Wil.", цытуючы нашу стацьцю, чамусьці замяніў у ёй літвіноў—на жыдоў!...). Вось-жа да гэтай „прыпадковасьці" **мы ня маем ніякае веры**: лішне ўжо дэманстрацыйна кіраўнікі польскага ўраду гавораць з соймавае трыбуны аб „раю" для нац. меншасьцяў у Польшчы, але, прыяжджаючы на землі гэтых меншасьцяў, заўсёды „прыпадкова", забываюцца аб іх тут істнаваньні!

× **Арышты сярод беларусаў.** Паводле інформацыяў польскіх газэт, 30 студзеня пракуратура

загадала зрабіць вобыск у памяшчэньні сэкратарыяту Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу „Змаганьне“ ў Вільні і заарыштаваць звыш 20 асоб, якія прымалі ўчасьці ў палітычнай працы Клюбу. Усіх іх вінавацяць у „комуністычнай дзеяльнасьці“.

Як піша „Słowo“, „ліквідацыйная акцыя“ пачалася ў сувязі з вызначаным Комінтэрнам Міжнародавым Зьездам Сялян, які мае адбыцца ў канцы лютага ў Бэрліне. У Варшаве стварыўся камітэт зьезду на Польшчу, а ў Вільні — аддзел яго — дзеля працы ў Віленскім, Наваградзкім і Беластоцкім ваяводзтвах. Віленскім аддзелам быццам кіраваў „муж даверыя“ пасольскага клюбу „Змаганьне“, Мазоль.

Каб спыніць дзеяльнасьць камітэту, польская ўлада загадала заарыштаваць учасьнікаў яе на абшары ўсіх трох названых ваяводзтваў.

× **Суд над Фабіянам Акіньчыцам.** Сьледам за працэсам б. грамадаўскага пасла Б. Тарашкевіча, якога судзілі другі раз за справу, разгледжаную ўжо ў сувязі з агульным працэсам „Грамады“, на 28 студня быў вызначаны такі-ж паўторны працэс б. юрысконсульта „Грамады“, Фабіяна Акіньчыца, засуджанага ўжо на 6 гадоў катаржнае турмы і цяпер абвінавачанага ў учасьці ў дэманстрацыі пад Лукішкамі ў канцы 1926 году—падчас галадоўкі вязьняў.

Побач з Акіньчыцам, меліся судзіць і рад іншых асоб, але справу адлажылі з прычыны няўкі аднае з падсудных і некалькіх сьведкаў. Адначасна ў адносінах да Акіньчыца суд пастанавіў справу „уможыць“.

Грам. Акіньчыц быў прывезены ў Вільню з вастрогу ў Вронках, дзе ён адбывае кару за працу ў „Грамадзе“. Як паведамляе „Słowo“, Акіньчыца хутка маюць пераслаць назад у Вронкі—на „сталае“ жыцьцё ў працягу недаседжаных яшчэ трох гадоў.

× **„Вучнёўскі Звон“.** Выйшаў з друку № 2 часопісі вучняў Віл. Бел. Гімназіі „Вучнёўскі Звон“. Аб шырокім учасьці ў ім моладзі сьведчыць багаты наплыў матэрыялаў, што прымусіла выпусьціць гэты нумар у павялічаным разьмеры на 24 страніцах.

Агляд матэрыялу дамо ў наступным нумары.

× **Спыненьне прыйма паштовых пасылак у СССР.** Польскі ўрад атрымаў афіцыяльнае паведамленьне з Масквы—аб спыненьні прыйма, ўсялякіх паштовых пасылак (пачкаў) з Польшчы. Дзеля таго міністэрства дало загад у-ва ўсе паштовыя ўстановы на мясцох, каб больш такіх пасылак ня прыймалі.

Запраўды дзіву даешся, гледзячы ды чуючы, што вытварае сучасны радавы дыктатар Сталін. Бо-ж пасылкі з Польшчы ў ССРР зьмяшчалі пераважна розныя прадметы з вопраткі і ежы, што слалі людзі сваім крэўным ці знаёмым у СССР, дзе пануе голад.

× **Патаньненьне заграгічных пашпартоў.** Па жаданьню Сойму ўрад мае безадкладна выдаць загад аб значным зьменшэньні цаны заграгічных пашпартоў. За пашпарт звычайны трэба будзе плаціць—замест 250 златых—100 зл; за пашпарт „ulgowy“ для прамыслоўцаў і гандляроў — толькі 25 зл.; а за „ulgowy“ для мэтаў лячэньня ці навуковых—20 зл. Пашпарты для эміграцыі на заробкі астаюцца надалей бясплатнымі.

# Карэспандэнцыі.

### Грамадзянскі ўчынак валаснон Рады ў Валожыне.

У валаснон радзе Валожынскае вол, на паседжаньні, пасьвячаным бюджэту, адзін з райцаў запрапанаваў прызнаць 200 зал. на беларускую прыватную школу ў Валожыне. Другі райца, Шчуцкі, б. беларускі вучыцель, запрапанаваў павялічыць гэтую суму да 500 зал., каторая й была аднагалосна прынята. **Родзіч.**

### Беларуская школа ў Славенску.

(Забрэскае вол., Валожынскага пав.).

Пасьля паўгоднага стараньня напасьледак Віленская школьная куратория дала канцэсыю Беларускаму Гаспадарскаму Зьвязу на прыватную школу беларускую ў Славенску Валожынскага пав. Вучыцелька ў гэтую школу таксама ўжо зацьверджана. Трэба з удзячнасьцяй адзначыць, што грам. Пётра Шарык даў дарма пад школу свой добры вялікі дом. **Крывіч.**

### Асьцярога для бацькоў.

21/I у в. Ганькавічах, Забрэзкае валасьці, падчас малачэньня збожжа дзяраўлянай малатарняй, у грам. Рыгора Канапелькі, здарыўся гэтакі нешчасьлівы выпадак: родная 10 гадоў дачка Рыгора Канапелькі паганяла коні, каторыя круцілі малатарню, і праз неасьцярожнасьць стала на дронк, да каторага былі запрэжаны коні, зачапілася адзежай за махавое кола і панесла сьмерць на месцы. **Мяйсцовы беларус.**

### Нашы „касынеры“.

(В. Каралеўцы Войстамскае гміны, Вялейск. пав.).

„Земля наша веліка і обільна, а парядка в ней нет“,—казалі некалі старавечныя славяны, а цяпер гэты сказ можна як раз аднясьці і да нашай вёскі.

Запраўды, вёска наша вялікая: ўсяго налічваецца да 130 дамоў; моладзь, калі выстраецца вечарам ці ў сьвята, дык выглядае, як цэлая рота войска; але, як той казаў, парадку ніякага няма. Няма ніякай арганізацыі, ні культурна-асьветнай установы; газэты, якая-б мо' трохі разганяла цемру, дык і зусім ніхто ня цікавіцца.

Ня дзіва, што пры такім жыцьці моладзь дэмаралізуецца і дзічэе. Увесь вольны час (а яго асабліва шмат цяпер зімой) пасьвячаецца на бескарысныя гульні й забавы. Грош, які зарабляецца, ідзець на „гарэліцу“, гэтую заўсёдную спадарожніцу вясковай цемнаце; і ўрэшце, ня маючы за што рук зачапіць, прыстаюць сваркі і крывавыя бойкі.

Гэтак аднаго разу яшчэ восеньню, добра падвыпіўшы, моладзь „загуляла“, але так весела, што былі ў рабоце косы, сякеры, калы і іншыя прылады. А вынікам гэтага аказаўся адзін цяжка ранены і некалькі лёгка раненых і пабітых.

Цяпер, 9 студня с. г., ізноў была такая самая „гульня“. Ці то бяручы ўзор з гістарычных польскіх „касынераў“, ці мо' памятаючы словы сваей беларускай марсэльезы „мы дружна паўстанем з касамі, з сярпамі“...—на гэты раз бойка так сама адбывалася з косамі ў руках і на манер ваеннай тэхнікі.

Адна група, пабраўшы косы, сякеры і інш., ішла фронтам праз увесь канец вёскі, а ў гэты час другая група, ня менш уваружаная, кінулася ў атаку, адкідаючы назад наступаўшага непрыяцеля. У рэзультаце на мейсцы бойкі засталіся два цяжка раненыя, каторых пры сьмерці адвязьлі ў больніцу ў Вялейку, і каля дзесятка лёгка раненых і пабітых.

Ці ня сорамна Вам, Браты Грамадзяне?

Жыцьцё вымагае ад вас і кліча да змаганьня за лепшае заўтра, а Вы пачынаеце біцца самы з сабою.

Браты! пакіньце п'янства! Вы ведаеце, што гэта на руку нашым ворагам, якім ходзіць аб тое, каб сеяць варожасьць паміж вамі і трымаць Вас у сацыяльнай і нацыянальнай няволі.

Заместа таго, каб прапіваць запрацаваныя крывёю і потам грошы, аддайце іх на культурна-асьветную працу, выпішце сабе родную беларускую газэту, адкуль Вы даведаецеся аб праўдзе, аб тым, хто Вы такія і як Вы павінны змагацца за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы, каб вызваліцца з няволі і стварыць сваё лепшае, незалежнае жыцьцё.

Дык да працы, браты! **„Мірус“.**

### Спэктакль-вечарына.

(В. Вялікае-Сяло, каля Маладэчна).

Дзякуючы стараньню гр. М. Станкевіча і хлопцам з в. Вялікага-Сяла і з в. Вывяр, дня 26 студзеня з дазволу Маладэчынскага Стараства, быў наладжаны спэктакль у в. В.-Сяле. Адыгралі „Заручыны Паўлінкі“ Аляхновіча і „Пасланец“ і „Зьбянтэжаны Саўка“ Родзевіча. Народу было каля 200 асоб, і дзеля таго, што памешканьне Т-ва Белар. Гасп. Зьвязу не пазваляла ўтоўпіцца болей людзей, прышлося замкнуць дзьверы, і хто прыйшоў крыху пазьней, таго ня пушчалі, бо людзей было прыйшоўшы з м. Маладэчна і з в. В.-Сяла каля 400 асоб.

Ігралі: Сьцяпана і Жабрака — гр. Сідарэвіч Янка з в. Вывяр, Саўку і Якіма — гр. Раманчык Мацей з вёскі Вывяр, Альжбэту і Магрэту — гр. Рухля Амільян з вёскі В.-Сяла, Паўлінку і Кухарку — гр. Зося Сідарэвічанка з м. Лебедзева, Адэльку і Агату—гр. Чарнэцкая Ганна і іншыя.

Апрача таго быў наладжаны струнны аркестр з хлапцоў-мастакоў з в. Вялікага-Сяла. Былі 2 балбалайкі, 1 гітара, 1 мандаліна і 1 скрыпка. Пасьля спэктаклю адбыліся танцы пад гукі гэтага аркестру. **Вялікасельскі.**

### Паштовая балячка.

(Пошта Селец, Пружанск. пав.).

Мне бы хацелася, каб Дырэкцыя Пошт і Тэл. даведалася аб парадках на нашай пошце і больш зьвярнула на іх увагі.

Ужо гадоў два як усялякую карэспандэнцыю з паштовага ўраду на вёскі пачалі аддаваць па спэцыяльных для гэтага кніжках, выбранаму, або вызначанаму аднаму чалавеку. У гэтых кніжках запісывалася, кожын раз, колькі, і чаго аддавалася з пошты. Але вось ужо больш году, як на гэтай кніжцы,—хто-б паказчыкам яе ня быў,—аддаецца без усялякае запісі начальнікам пошты,—усё, што ёсьць на пошце! А калі хто зьявіцца на пошту бяз кніжкі, дык яго ўласные газэты ці пісьма не аддадуць яму. Гэткім чынам, многа газэт, і нат' пісьмаў прападаець, і трудна, нат' немагчыма знайсьці сьлед вінавайцы пры гэткіх парадках. **З—ч.**

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

# З Радавае Беларусі.

### Нікога не абмінулі!

Што „чыстка“, зробленая ў Сав. Беларусі па загаду Сталіна, мела на мэце зрабіць удар выключна па беларусах-камуністых і праводзіла яўна процібеларускую палітыку „чырвоных“ маскоўскіх нацыяналістаў, — аб гэтым сьведчыць факт, што пры „чыстцы“ не абмінулі нікога з беларусаў, займаючых больш-менш паважнае становішча ў камуністычнай партыі. Ясна, што не маглі абмінуць і такога „стаўба“ комунізму ў Беларусі, як Чарвякоў. Вось, цікаўны, дакумэнт гэтага:

**Пастановы бюра ЦК ЛКСМБ па пытаньні аб пазыцыі тав. Чарвякова ў барацьбе з правым ухілам і нацыянал-дэмакратызмам ад 12. I. 30 г.**

1. Бюро ЦК ЛКСМБ цалком прылучаецца й ухваляе пастанову пленуму ЦК КП(б)Б па пытаньні аб пазыцыі тав. Чарвякова ў барацьбе з правым ухілам і нац.-дэмакратызмам, які (Чарвякоў) на працягу даўгога пэрыяду і да апошняга часу выказваў і бараніў рад праваўхілісцкіх установак, як: патрыманьне лёзунгу Бухарына „абагачайцеся“, салідарызаваньне з праваапартуністычнымі паглядамі Бухарына ў „Заметках эканамістага“, змазваньні кіруючае ролі работніцкае клясы ў усім сацыялістычным будаўніцтве, затушоўваваньне вядучае ролі прамысловасьці—ў першую чаргу цяжкое індустрыі ў сац. рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, ідэалізацыя буржуазна-нацыяналістычных партыяў у мінулым, падмена пралетарскага характару Кастрычніцкае рэвалюцыі ў Беларусі дробна-буржуазным характарам, тэорыя ўступак інтэлігенцыі і іншыя, — і ня прыймаў актыўнага ўчасьця ў барацьбе проці правага ўхілу і нац.-дэмакратызму.

2. Бюро ЦК прапануе ўзмацніць у камсамольскай арганізацыі барацьбу з усялякімі апартуністычнымі хістаньнямі ад генэральнае лініі партыі і шырака растлумачыць у камсамольскай арганізацыі сацыяльнае карэньне правага ўхілу, нац.-апартунізму й нац.-дэмакратызму.

„Зьвязда“ № 18 з 21. I. 30 г.

Падчас апошняй „чысткі“ дзейных сяброў Беларускае Акадэміі Навук у Менску быў звольнены і праф. Дурново. Расейскія эміграцкія газэты надта заступаюцца, й бароняць праф. Дурново, як выдатнага навуковага працаўніка, у той час, як аб іншых выдаленых навуковых працаўнікох, запраўды беларускіх, замоўчываюць. Як нам ведама, праф. Дурново даўгі час знаходзіўся ў Празе Чэскай, гдзе зусім не выяўляў актыўнага ўдзелу ў беларускай культурнай працы, і нас дзівіць, чаго яго выклікалі ў Менск? Хіба, каб потым выкідаць!...

# Беларусы у Латвіі.

### Уселатвійскі Беларускі Зьезд.

На 26 студзеня быў склікавы ў Дзьвінску Уселатвійскі Беларускі Зьезд. Паводле мяркаваньня арганізатараў, у Зьездзе меліся прыняць учасьце 200-300 дэлегатаў. Падробную справаздачу падамо па атрыманьню яе ад нашага карэспандэнта.

### Новая часопісь.

У Латвіі пачала выходзіць новая беларуская часопісь пад гістарычным загалоўкам „Наша доля“. Газэта закладзена згодна з пастановай радыкальнага беларускага вучыцельства. Жадаем ей адыграць у Латвіі такую-ж ролю, як некалі адыграла першая „Наша Доля“ ў 1906 г.

# Паштовая скрынка.

**Марку К—у.** Ня ведаем, як вам і адказваць. Ведама, што марксізм нясе вызваленьне ўсім прыгнечаным народам і ніколі ні ад кога не вымагае, каб выракаўся права на самастойнае жыцьцё. У „сталінаўскай“ лініі запраўды-ж лішне шмат цёмнага. Пастараемся разабрацца ў гэтым у спэцыяльнай стацьці. Запраўды ж: тут пахне правакацыяй у адносінах да рэвалюцыі і яе здабычаў...

**Грам. Нікіфароўскаму.** Вельмі дзякуем за матэрыялы. Дробныя рэчы выкарыстаем у газэце. Вялікшыя, разгледзіўшы, пастараемся выкарыстаць інакш. У кожным выпадку, што ня здолеем надрукаваць цяпер-жа, тое захаваем да „лепшых часоў.

„Бацькаўшчына—мой Сын“ пойдзе ў першы чарод.

**М. Машары.** „Калядніцу“ зьмесьцім у найбліжэйшых нумарох.

**Ад наступных асоб атрымалі:** Кулеш Тодар—3 зл. 50 гр., Сакалова Алёна—2 зл., Табола Антон—3 зл. 50 гр., Яйсон Рыгор—3 зл. 50 гр., Чарнэцк М.—2 зл., Бажок Антон—1 зл., Мацук Сяргей—3 зл. 50 гр., Клімчук Вінцук—3 зл, 50 гр,, Т-ва Бел. Школы ў Хляпічах—3 зл. 50 гр., Бабіч Янка—3 зл. 50 гр. Бортнік Язэп—2 зл.

(Працяг у наступным нумары).

Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**




Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.